беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая тамсама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску штотыднёва

# НАША НІВА

№ 13 (51)
10 чэрвеня 1996 г.
панядзелак

выходзіць у панядзелкі

летні расклад чыгункі
КУЛЬТУРА, ПАЛІТЫКА
ТЭЛЕПРАГРАМА
БІРЖА ПРАЦЫ

## ПЕРШЫ СТРАХ

Жыхары беларускай сталіцы паступова набіраюцца досьведу ўдзелу ў масавых акцыях пратэсту. Новыя дэманстранты значна больш рацыянальныя ў сваіх учынках, калі сьведама йдуць на дубінкі. Яны кепска ведаюць гісторыю беларускага адраджэньня пачатку стагодзьдзя, яны кепска арыентуюцца ў ягоных сымбалях, але яны маюць інстынкт духоўнага самазахаваньня.

Першае зьдзіўленьне, першае абурэньне, першы страх, першая перамога, першае расчараваньне, першае пераадоленьне сябе... Тым, хто выпадкова патрапіць на наступны несанкцыяваны мітынг, трэба ведаць, што...

Парады журналіста Севярына Квяткоўскага для тых, хто ўжо ўтаймаваў у сабе першы страх.

*Старонка 3.*

*Гэтым летам мы не на пляжы...*



Здымак Алены Адамчык

## Замест З.Пазьняка будзе Л.Баршчэўскі

На Сойме БНФ, які адбыўся ў мінулую суботу, в.а. старшыні Фронту прызначаны Лявон Баршчэўскі. Менавіта яго ў сваім звароце да Сойму, дасланым з-за мяжы, прапанаваў прызначыць Зянон Пазьняк. Старшыня Фронту лічыць, што пакуль пры ўладзе А.Лукашэнка, шлях для яго ў Беларусь закрыты. Сойм даручыў Сяргею Папкову сфармаваць групу дзеля вылучэньня З.Пазьняка кандыдатам у дэпутаты ВС на восеньскіх давыбарах.

## Афрыканскі шлях

Чалавечыя каштоўнасьці зьнікаюць нашмат хутчэй, чым назапашваюцца. Спачатку хлусьнёй, пасьля дубцом па сьпіне, пасьля па твары, пасьля да крыві, потым – куляй, потым – танкамі... Пяць гадоў таму сьвету здавалася, што нарэшце перамог гуманізм, а палітыцы падвойных стандартаў прыйшоў поўны й канчатковы капут. Але выйшла так, што йзноў мы, эўрапейцы, альбо спадзяемся хлусьнёй выратаваць шанцы на праўду, падтрымваючы Ельцына на перавыбраньне, альбо разводзім рукамі й адводзім вочы, калі ў Афрыцы забіваюць тысячы людзей за дзень. Чыёсьці мінулае можа стаць нашай пэрспэктывай.

*Артыкул Андрэя Дынько ў «Панараме»* *на старонцы 4.*

## Чарговыператрус у рэдакцыі газэты

У мінулую пятніцу ў рэдакцыі газэты «Беларуская Маладзёжная» быў праведзеныператрус. Рабіла міліцыя, рабіла біз санкцыі пракурора, урэшце памешканьне рэдакцыі апячаталі. Але ненадоўга.

*Больш падрабязна пра гэта –* *на старонцы 2.*

**Літаратура**

*Мішэль Мантэнь*

## Пра хлусоў



«Каму-каму ўжо гаварыць пра памяць, але толькі ня мне, бо ў мяне памяць зусім неважнецкая. Я не знаходжу ў сабе ані каліва гэтай здольнасьці розуму, і, мабыць, на сьвеце ня знойдзеш іншага чалавека, настолькі ж бяздужага ў гэтым сэнсе, як я»...

Фрагмэнт клясычных «Досьледаў» Мантэня ў беларускім варыянце. Думкі, якія не старэюць, а, наадварот, набываюць актуальнасьці.

*Старонка 15.*

## навіны 1-м сказам.......

**ПУП ЗЯМЛІ.** 31 траўня за 70 км ад Менску побач зь вёскай Антонава Навасялкоўскага сельсавету Пухавіцкага раёну быў урачыста адкрыты спэцыяльны геадэзічны комплекс у гонар гэаграфічнага цэнтру Рэспублікі Беларусі.

**КОШТ ІЛЬГОТАЎ.** У траўні страты ад бясплатнага праезду пэнсіянэраў ды льготнікаў на прыгарадным транспарце толькі для менскага аўтобуснага прдпрыемства «Менскпасажараўтатранс» склалі 700 млн. руб.

**РОСТ ЦЭНАЎ.** Кошт праезду на міжгародніх аўтобусах павялічыўся з 240 да 280 руб. за км, а з 10 чэрвеня тарыфы для праезду ў прыгарадных маршрутах падымуцца да 200-220 руб. за км.



**КАТАСТРОФА.** Першы палёт новай эўрапейскай ракеты-носьбіта «Арыян 5», за якім назіралі мільёны тэлегледачоў ва ўсім сьвеце, скончыўся выбухам на вышыні 3400 мэтраў праз 52 сэкунды пасьля старту з касмадрому Куру ў Французскай Гвіяне.

**ПАДАРУНАК.** Швэйцарыя выдаткавала Беларусі 2 млн. даляраў ЗША на закуп абсталяваньня для аэрафотаздымкаў, што дазволіць удасканаліць складаньне зямельнага кадастру.

**БНФ.** Белзьнешэканомбанк атрымаў ад менскай гарадзкой пракуратуры загад на арышт банкаўскага рахунку БНФ, што азначае першы крок да забароны гэтай арганізацыі.

**ПРЫНЯЛІ.** Беларусь разам з Альбаніяй, Балгарыяй, Румыніяй ды Ўкраінай была прынятая ў склад дзяржаў-сябраў Цэнтральназўрапейскай ініцыятывы, куды ўжо ўваходзяць Аўстрыя, Боснія, Герцагавіна, Вугоршчына, Італія, Македонія, Польшча, Славакія, Славенія, Харватыя, Чэхія.

**БЯЗЬЯДЗЕРНАЯ ЎКРАІНА.** Прэзыдэнт Украіны заявіў, што завершаны поўны вывад з Украіны расейскіх ракетаў зь ядзерным начыньнем.

**РАСЕЙСКІ РУБЕЛЬ.** Рашэньнем Цэнтральнага банку Расеі расейскі рубель будзе свабодна прадавацца на сусьветных біржах, што юрыдычна азначае яго свабодную канвэртаванасьць.

**ПАЛІТЫЧНАЯ КАРЭКТНАСЬЦЬ.** У Нямеччыне да паваеннай традыцыі ня згадваць публічна шляхецкіх тытулаў дадаўся закон, што забараняе таксама публічнае менаваньне навуковымі званьнямі тыпу доктар нейкіх навук.

**ЛЕНІНАЎ ПЕРАПЛАВІЛІ.** У Кутаісі з двух пераплаўленых статуяў Леніна адлілі адну статую славутага грузінскага цара Давіда Будаўніка.

# Нязьменны статус

Апошнім часам усё часьцей прыходзяць паведамленьні пра напады на людзей за тое, што яны выкарыстоўваюць нацыянальныя сымбалі. Адна справа, калі гэтыя праблемы ўзьнікаюць падчас мітынгаў. Але ў розных рэгіёнах Беларусі цяпер здараецца й такое, калі амонавец на вуліцы чапляецца да чалавека з-за значкі з «Пагоньай». Пошта «НН» сьведчыць пра гэткія канфлікты.

Той, хто сёньня прадстаўляе ўладу, спасылаецца на ўказ А.Лукашэнкі, дзе ў якасьці дзяржаўных зацьверджаныя рознакаляровыя сымбалі, насьпех прыдуманыя перад рэфэрэндумам. Але дзяржаўная сымболіка — гэта прэрэгатыва парлямэнту. Парлямэнт зьбіраецца згуляць на карысьць А.Лукашэнкі і ўнесьці ў парадак дня сэсіі дадатковы пункт з праектам закону "Аб прызнаньні страціўшымі сілу заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусі па пытаньнях дзяржаўнай сымболікі". Цалкам верагодна, што бліжэйшым часам сымбалі, на якіх настойвае А.Лукашэнка, сапраўды юрыдычна стануць дзяржаўнымі. Адбудзецца поўнае размежаваньне нацыянальнай і дзяржаўнай сымболікі.

Але сёньня Міністэрства юстыцыі, спасылаючыся на дакумэнт, прыняты яшчэ за часамі СССР (Пастанова Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР), выносіць папярэджаньні партыям і арганізацыям за выкарыстаньне «незарэгістраванай сымболікі». Між тым, калі йсьці за абсурднаю логікай нават таго дакумэнта, нацыянальная беларускія сымбалі зьяўляюцца «зарэгістраванымі». Герб «Пагоня» ў траўні 1995 г. (перад самым рэфэрэндумам) быў унесены ў «Сьпіс духоўных гісторыка-культурных каштоўнасьцяў» Навукова-мэтадычнай радай пры Дзяржаўнай інспэкцыі Беларусі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. У гэты ж Сьпіс унесены гістарычныя гербы беларускіх гарадоў, нададзеныя паводле Магдэбурскага права. Статус гэтага сьпісу такі, што ў адпаведнасьці з Законам пра ахову гісторыка-культурнай спадчыны герб «Пагоня» знаходзіцца пад аховаю дзяржавы.

Калі ўвечары 26 красавіка ў штаб-кватэры БНФ спэцслужбамі ладзіўся пагром, былі пазрываныя ўсе сьцягі й харугвы. Афіцыйны, паводле статуту, сымбаль БНФ — бел-чырвона-белы сьцяг з барочным крыжам. Праз тыдзень Міністэрства юстыцыі выносіць БНФ папярэджаньне, дзе першая прэтэнзія фармулюецца наступным чынам: «У памяшканьні штаб-кватэры партыі выкарыстоўваўся незарэгістраваны як сымбаль партыі, бел-чырвона-белы сьцяг (былы дзяржаўны)».

Бел-чырвона-белы сьцяг зьяўляецца «зарэгістраванаю сымболікай». Дзейнічае пастанова Менскай гарадзкой рады ад 1990 г. пра выкарыстаньне ў горадзе гэтага сьцягу. Ён уключаны ў афіцыйны сымбаль ТБМ, статут якога зарэгістраваны тым жа Міністэрствам юстыцыі.

Робячы выснову наконт сёньняшняга юрыдычнага статусу нацыянальнай сымболікі, можна пераканаўча сьцвярджаць — яна захоўвае афіцыйны статус.

Але зусім асобны сюжэт — гэта псыхалягічная атмасфэра вакол нацыянальнай сымболікі, псыхалягічныя аспэкты рэпрэсіў супраць яе.

Сэнс СЫМБАЛЯ нельга дэшыфраваць простымі намаганьнямі розуму, яго немагчыма аддзяліць ад вобразу, ён не йснуе ў якасьці нейкай рацыянальнай формулы, якую можна ўкласьці ў вобраз, а потым выняць зь яго. Сымбаль — гэта знак з адвольным значэньнем, якое дэтэрмінаванае грамадзкімі нормамі й навучаньнем, а не генэтычнай праграмаю. У той час як ЗНАКАМ называецца ўсё, што можа перадаваць інфармацыю. Часам значэньне знаку дэтэрмінаванас біялягічна. Такія знакавыя сыстэмы закрытыя — розныя знакі нельга скамбінаваць так, каб утварыць новыя, што значна абмяжоўвае гнуткасьць і дыяпазон успрыманьня інфармацыі. І вось для амонаўца беларускі сымбаль стаў знакам ворага. Гэта й ёсьць зьвядзеньне сымбаля да знака.

Такая рэгрэсіўная працэдура азначае спрашчэньне жыцьця, калі ўжо не патрабуецца шматузроўневай інтэрпрэтацыі, а дастаткова ацэначнай рэфлексіі. Амонавец успрымае толькі вузкі сэгмэнт інфармацыі — перад ім вораг. Тут ужо дзейнічаюць мэханізмы падсьвядомасьці. Але для амонаўца гэта шлях паводле Фройда — атасамленьне сымбаля й рэакцыя на сымбаль як псыхапаталягічны сымптома. Нацыяналісты ж працягваюць Юнгаўскую й рамантычную традыцыю, тлумачачы ўсё багацьце чалавечае сымболікі як выяўленьне ўстойлівых фігураў падсьвядомасьці (так званых архетыпаў), якія ў сваёй апошняй сутнасьці не раскладаюцца.

Сярод усіх сродкаў камунікацыі сымбалі зьяўляюцца найбольш складанымі, але адначасова найбольш гнуткімі ў пляне рэагаваньня, што дазваляе людзям пасьпяхова адаптавацца да розных умоў. Гэта, апроч іншага, азначае, што нацыянальная беларуская сымболіка, якую ў розных пэрыяды маглі зьвязваць з рознымі вобразамі й даваць не заўжды аднолькавую інтэрпрэтацыю, да якой розныя сілы могуць ставіцца па-рознаму, захоўвае нязьменны статус нацыянальнай сымболікі.

Алег Дзярновіч

"Наша Ніва"
незалежны тыднёвік

НАША НІВА

заснаваны ў 1906,
адноўлены ў 1991
заснавальнік і выдавец — Павал Жук
рэдактар — Сяргей Дубавец
адказны сакратар — Алег Дзярновіч
мастацкі рэдактар — Сяргей Харэўскі
навіны — Уладзімер Бараніч
рэдактар дадатку "Інфарматар" — Андрэй Лапцёнак
макет — Віктар Корзун
мантаж — Іна Жызьнеўская
набор — Таццяна Чуйвід
стыліст — Антон Кузьміч
карэктура — Сяргей Сматрычэнка
пры ўдзеле — Сяргея Шупы
прадстаўнік рэдакцыі ў Гомелі — Зьміцер Бартосік
(тэл. 56-94-36)
**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ**
**220123 Менск, а/с 71** **Тэл./факс 36-76-75**
**Падпісны індэкс 63125**

# Краіна

**ПЕРАТРУС.** У мінулую пятніцу ў рэдакцыі газэты «Беларуская Маладзёжная» пад кіраўніцтвам супрацоўніка Аддзелу барацьбы з эканамічнай злачыннасьцю Цэнтральнага раёну Менску ст. лейтэнанта Судакевіча Алега Браніслававіча быў праведзены ператрус.

Паводле сьведчаньня адказнага сакратара газэты Канстанціна Елісеева, вобшук праводзіўся бяз санкцыі пракурора. Сп. Судакевіч зьвязаў свой візыт ў рэдакцыю «БМ» зь нейкім крадзяжом, які меў месца дзесьці недалёка ад памяшканьня рэдакцыі. Ён запатрабаваў паказаць, дзе схаваныя рэдакцыйныя «баксы», а таксама дакумэнты на ўсю рэдакцыйную апаратуру, і ўрэшце заявіў, што 750 сьвежых нумароў «БМ» скрадзены з друкарні. Таксама К.Елісееў распавёў, што падчас сваіх перамоваў з Цэнтральным РАУСам ст. лейтэнант Судакевіч паведаміў, што на тэрыторыі раёну ім выкрыта штаб-кватэра БНФ. Урэшце, кватэра, дзе месьцілася рэдакцыя была апячатаная. У суботу раніцай супрацоўнікі «БМ» расьпячаталі свой незаконна арыштаваны офіс, пра што адразу ж паведамілі ў РАУС Цантральнага раёну, але на атрыманую інфармацыю там ніяк не адрэагавалі. Цяпер «Беларуская Маладзёжная» чакае рэакцыю з пракуратуры, куды была скіраваная скарга на антызаконныя дзеяньні супрацоўнікаў міліцыі.

**СТУДЭНТЫ.** У Менску зьявіліся першыя спробы выключэньня з навучальных установаў студэнтаў-удзельнікаў веснавых акцыяў пратэсту. Гэтак студэнт другога курсу факультэта журналістыкі БДУ Паўлюк Карназыцкі з-за «пасадкі» (6 сутак у «Прылуках») не пасьпеў здаць тры залікі і мусіць рыхтавацца да выключэньня. Палітычныя матывы гэтай рэпрэсіі відавочныя, бо іншым студэнтам дазволена здаваць запазычанасьці і нават перанесьці сэсію на восень.

**ТУРЫЗМ.** Калідор для абмену замежнай валюты на беларускія рублі рэжа пад корань ня толькі беларускія прадпрыемствы, што зрабіліся неканкурэнтаздольнымі з-за штучна нізкага курсу даляра. У правале апынуліся й шматлікія турыстычныя фірмы. Нават дзяржаўная арганізацыя «Менсктурыст». Паводле інфармацыі БЕЛТА, яна прадала да пачатку сэзону пуцёвак на паўмільярда рублёў, але ня мае магчымасьці канвэрсаваць гэтыя грошы ў валюту, каб разьлічыцца з замежнымі партнэрамі. Тыя ніяк ня хочуць разумець, што ўсё гэта «часовыя цяжкасьці пабудовы рынкавага сацыялізму». Пад пагрозай зрыву апынуліся зафрахтаваныя турагенцтвамі чартарныя рэйсы самалётаў. У выніку кліенты аддаюць перавагу больш надзейным замежным фірмам, расплочваюцца зь імі напрасткі ў далярах. Беларускія фірмы таксама шукаюць выйсьце і прапануюць вылет з аэрапортаў Літвы ці Польшчы. У выніку грошы перацякаюць да разумных суседзяў, а бюджэт Беларусі нясе вялізныя страты.

**АРХІКРЫЗЫС.** Прадстаўнікі парлямэнцкай фракцыі «Грамадзянскае дзеяньне» С.Багданкевіч, Л.Гразнова ды П.Данейка на сустрэчы з журналістамі зрабілі аналіз эканамічнай сытуацыі ды апошніх крокаў выканаўчай улады ў эканоміцы краіны. Сп. Багаданкевіч ахарактарызаваў цяперашняе становішча як архікрызыснае і сказаў, што краіна рухаецца да поўнага фінансавага банкруцтва. Так, сёлета толькі за першы квартал дэфіцыт у зьнешнегандлёвым балансе склаў блізу 500 млн. даляраў, г.зн. столькі, колькі за ўвесь мінулы год. Апроч таго, Нацыянальны Банк Беларусі выдаў нічым не падмацаваных крэдытаў прыблізна 192 млн. даляраў, што яшчэ больш раскруціць махавік інфляцыі. На складах прадпрыемстваў сабралася нерэалізаванай прадукцыі амаль на 770 млн. даляраў. З-за штучнага валютнага курсу, разбурэньня міжбанкаўскага валютнага рынку і абмежаваньняў у дзейнасьці валютнай біржы краіна губляе рынкі збыту, а экспарт робіцца стратным.

Было заяўлена таксама, што колькасьць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных набліжаецца да 200 тыс., а схаванае беспрацоўе з улікам спыненых прадпрыемстваў даходзіць да 2 млн. чалавек. А сп. Данейка сказаў, што пасьля антырынкавых указаў ППРБ многія прадпрымальнікі пачалі пераганяць валюту за мяжу. «Уцякло» ўжо блізу 300 млн. даляраў.

**«ЗАПУШЧАНЫ» МАЗ.** Ужо некалькі дзён стаіць Менскі аўтазавод. Працаўнікі адпраўленыя ў вымушаны адпачынак. Бяз грошай, зразумела. Прычынай, відаць, сталася адсутнасьць попыту на менскія грузавікі ў Расеі, куды ідзе амаль 90% усёй прадукцыі. Паводле інфармацыі «Зьвязды» з 19 тыс. колішніх працаўнікоў на заводзе засталося толькі 30%. Астатніх адправілі працаваць на падсобную гаспадарку з захаваньнем 2/3 заробку.

**«ЗАПУШЧАНЫЯ» НАСТАЎНІКІ.** Газэта «Зьвязда» паведаміла пра гаротны стан школьных настаўнікаў Менску ды Меншчыны. У Заводзкім раёне сталіцы ёсьць цяжкасьці з выплатай адпускных за ліпень. А ў Ленінскім раёне адпускных зусім не выплочвалі. А ў Менскім раёне яшчэ ня ўсім выплацілі зарплату за травень. Што будзе з адпускнымі — невядома. Бо ў бюджэт Менскага раёну паступіла ўсяго 90 млн. руб. Гэтага хопіць хіба што на 180 чалавек.

**ПРЭМІЯ.** Сьвятлана Алексіевіч атрымала штогадовую прэмію Курта Тухольскага, прысуджаную швэдзкім ПЭН-клюбам. Памер прэміі склаў 150 тыс. швэдзкіх кронаў. Курт Тухольскі быў вядомым нямецкім пісьменьнікам-публіцыстам. У сваіх сатырычных вершах і прозе ён выкрываў ваеншчыну, шавінізм ды фашызм. У 1933 г. ён, ратуючыся ад гітлераўскага рэжыму, эміграваў у Швэцыю, дзе й пражыў да сьмерці ў 1935 г. Асноўная умова для атрыманьня прэміі імя Курта Тухольскага — выразная грамадзянская пазыцыя. У рашэньні швэдзкага ПЭН-клюбу адзначаецца, што С.Алексіевіч заслужыла гэтую ўзнагароду дзякуючы сваёй шматгадовай барацьбе за свабоду слова ў грамадстве.

**ЦЫГАРЭТЫ.** Разам з масавай кампаніяй па антыдыфтэрыйных прышчэпках у Менску з 15 па 29 траўня праводзілася масавая аблава на шапікавых аптавікоў ды бабулек-гандлярак цыгарэтамі й сьпіртусовымі напоямі. У выніку за гандаль без акцызных марак было затрымана 1267 чалавек. У іх было адабрана 24.935 пачкаў цыгарэт ды 4353 літры алькагольных напояў. У аптовых гандляроў было сканфіскавана 378 блёкаў цыгарэт і болей за 22.628 літраў алькаголю. Цяпер ўсе памяшканьні міліцэйскіх пастарункаў забітыя сканфіскаванымі таварамі. Міліцыянты радыя былі б прадаць гэта, але няма акцызных марак, бо на іх няма грошай.

**АЎТАПЕРАХОДЫ.** Прадпрыемства «Інтэраўтатранс» Міністэрства транспарту й камунікацый адкрыла чатыры новыя аўтапераходы. Яны разьмяшчаюцца на аўтатрасах паблізу населеных пунктаў Горня Хоцімскага раёну, Кастрова Верхнядзьвінскага раёну, Смолкі Касьцюковіцкага раёну ды Чачэрску. Такім чынам, агульная колькасьць аўтапераходаў на межах Беларусі дасягнула 45. На гэтых жа кантрольных пунктах можна набыць нядаўна выдадзеную новую мапу-схему аўтамабільных дарог Беларусі, дзе ўпершыню абазначаныя і ўсе прымежныя аўтапераходы.

# Пошта

## Вайсковыя язвы

Самы папулярны адпачынак у войску, які яднае ўсе слаі, ад салдата да генэрала — выпіўка, ужываньне алькаголю. «Падрыўны элемэнт» 40°-й моцы вельмі эфэктыўна раскладае дысцыпліну і маральна-баявыя якасьці вайскоўцаў. На 9 траўня 96 году ў палку ледзьве хадзілі кампаніі п'яных салдатаў, а на «губе» не хапала месца. 23 лютага г. г. п'яны прапаршчык проста ў палку павесіўся; у чарзе па піва ў вайсковым гарадку другі «прапар» паслаў падпалкоўніка, зампаліта свайго палка; у клюбе на агульным сходзе салдатаў і сэржантаў намесьнік камандзіра палка па рабоце з асабовым складам разьбіраў некалькі ананімных цыдулак са скаргамі пра тое, што за сабраньня ў ротную касу з салдацкай зарплаты грошы афіцэры п'юць у канцыляры; яшчэ аднаго «куска» (прапаршчыка), начальніка сталоўкі, пасьля папойкі ледзьве адратавалі...

Гэта ня ўсе прыклады за апошнія месяцы толькі ў адной в/ч, а колькі ва ўсіх войсках! Шэраг атрымаецца вельмі доўгі. Ніякія шматлікія захады асабліва посьпеху не далі, як любяць жартаваць: «Пілі, п'ем і будзем піць». А што яшчэ рабіць, калі пануючая ідэалёгія — «хай усё згарыць, абы мне добра», абыякавасьць да ўсяго, што ні кранае непасрэдна-асабіста, карацей, геданізм і нігілізм.

Гарэлка — спосаб заліць бяздушную пустку, марнатраўства йснаваньня, уцёкі ад жорсткіх пытаньняў жыцьця ў стан бяздушнасьці, унівэрсальная панацэя, якая гоіць усе праблемы і дае радасьць хай хоць на пару гадзінаў. Барацьба з п'янствам ня дасьць толку, пакуль у грамадстве ня стануць рэальнай сілай сапраўдныя вартасныя арыентыры чалавечага быцьця.

Што робяць вайскоўцы ў арміі, што іх там трымае? Салдаты вымушаныя «адбамбіць» свой тэрмін, «цягнуць лямку» і галоўная мара — дэмбель, дзе «воля, бабы, мора водкі, в центре ты, в авто — король». Пэўная частка застаецца на кантракт, бо няма куды падацца, з гэтай прычыны ўладкоўваюцца на кантрольную службу і з «гражданкі». Тут зразумелыя мэркантыльныя разьлікі — хоць неяк перабіцца, а там пабачым.

Ёсьць пэўны слой т.зв. «фанатыкаў», якія паводле сваёй натуры прыхільныя да вайсковай справы, яны ў войску маюць якія-ніякія грошы і любімы занятак, магчымасьць кар'еры. Асноўная маса афіцэраў, прапаршчыкаў чакаюць: атрыманьня кватэраў, пэнсіяў, чарговага званьня, пераменаў, калі ўсё стане па-іншаму, як у казцы, а яны пакуль у цішы, звыклай заўвадзі перачакаюць. Закасьцянелая за дзесяцігодзьдзі сыстэма, страціўшы стары сэнс свайго йснаваньня (камунізм, шчыт савецкай Радзімы), не была карэнна ператвораная ў беларускае войска і небясьпечныя язвы разьядаюць чужую армію на беларускай зямлі.

А крадзяжы і выкарыстаньне службовага становішча — яшчэ страшнейшыя заганы, якія разьядаюць мараль, гаворка пра ідэалы тут выкліча рогат і непаразуменьне, калі навокал крадуць, хлусяць, зьдзекі, подласьць, славутыя армейскія «долбизмы». Красамоўная армейская прымаўка: «Если сп...л и ушёл, называется — нашёл».

Нармальная баявая падрыхтоўка становіцца выключэньнем, а ня нормай. Падчас выпуску з вучэбкі ў Печах на апошняй сустрэчы ў клюбе камандзіру было пытаньне: «Дык каго з нас рыхтавалі: воінаўабаронцаў ці чарнарабочых шырокага профілю, бо часьцей у руках трымалі мятлу, швабру ды рыдлёўку, чым аўтамат?» Таварыш палкоўнік, прыстойны афіцэр, толькі разьвёў рукамі...

Аўген Касьцюшка

*Мішэль Мантэнь*

# Пра хлусоў

***З «Досьледаў», кніга I, разьдзел IX***



Каму-каму ўжо гаварыць пра памяць, але толькі ня мне, бо ў мяне памяць зусім неважнецкая. Я не знаходжу ў сабе ані каліва гэтай здольнасьці розуму, і, мабыць, на сьвеце ня знойдзеш іншага чалавека, настолькі ж бяздужага ў гэтым сэнсе, як я. Паводле іншых якасьцяў я чалавек чалавекам, а вось памяць так вылучае мяне, што робіць вартым гучнага імя і пагалоскаў.

Я ўжо не кажу, што мець слабую памяць папросту ня вельмі прыемна, бо даводзіцца цярпець ад усялякіх нязручнасьцяў: нездарма Плятон называў памяць вялікай і магутнай багіняй; калі ў маёй старонцы хочуць сказаць, што камусьці бракуе здаровага сэнсу, кажуць, што ён бяз памяці, і калі я скарджуся на хібы сваёй памяці, мне не даюць веры й ганяць так, быццам я кажу на сябе, што звар'яцеў. Людзі не адрозьніваюць памяць ад уменьня думаць. Гэта памылковае меркаваньне, бо, як сьведчыць досьвед, цудоўная памяць можа бліскуча спалучацца зь недастаткова акрэсьленай здольнасьцю мысьліць.

... Не без прычыны кажуць, што няхай не бярэцца хлусіць той, хто ня ўпэўнены ў цьвёрдасьці сваёй памяці. Ведаю, што граматысты адрозьніваюць значэньне выразу «казаць няпраўду» ад значэньня дзеяслова «хлусіць». Яны пішуць, што «казаць няпраўду», — значыць, казаць памылковыя рэчы, якія лічыш праўдзівымі, а слова «хлусіць» у лаціне, зь якой пайшла мова наша францускае, азначае ўсё адно, што «йсьці супраць свайго сумленьня», і, такім чынам, «хлусяць» толькі тыя, хто ведае адно, а кажа адваротнае, вось жа пра іх я і гавару. Гэтыя альбо выдумляюць усё ад альфы да амэгі, альбо перакручваюць і скажаюць ісьціну. Яны перакруцяць, паскажаюць яе, а пасьля, калі вярнуць іх да таго, пра што яны былі распавядалі, ім робіцца цяжка схітраваць, бо сапраўднае было добра ўваб'ецца ў памяць і замацуецца там падчас спазнаньня і веданьня, паколькі рэчаіснае першае ўвайшло ў памяць, і таму, як бачыш, яно ўсплывае ва ўяўленьні, выдаючы ману, якая з-за адсутнасьці ўстойлівага і надзейнага грунту рэчаіснасьці выцясьняецца з галавы, таму як абставіны першага знаёмства з рэччу, узьнікаючы ў розуме зноўку ды зноўку, сьціраюць сьляды непраўдзівых і перакручаных прыдумак. Калі ж усё, што чалавек скажа — суцэльная хлусьня і няма ўражаньняў, супярэчлівых прыдумцы, небясьпека, што хлус схібіць, меншая. Але паколькі гэтым разам прыдумка — няўлоўны прывід, яна аж дрыжыць, гатовая зьнікнуць са слабай памяці.

Я неаднойчы быў сьведкам гэткіх выпадкаў, і самае сьмешнае, што яны здараліся акурат з тымі, чыё рамяство — укладаць свае словы так, каб яны дапамагалі ў справах, а таксама й цешылі важных паноў, да каго яны зьвернутыя. Але раз акалічнасьці, якім гэтыя людзі гатовыя падпарадкаваць душу й сумленьне, бясконца зьмяняюцца, дык і іхнія словы гэтаксама бясконца зьмяняюцца. І атрымваецца: нешта часам называюць жоўтым, а часам шэрым, аднаму скажуць так, а другому — гэтак; калі ж тыя дзьве асобы здолеюць супаставіць непадобныя меркаваньні, дык з усіх хітрыкаў нашых красамоўцаў робіцца пшык. Апрача таго, яны й самі часта блытаюцца: чыя памяць дасьць сабе рады ўтрымаць усе вопраткі, якімі яны ўзнагародзілі адзін прадмет? Шматлікія мае сучасьнікі зайздросьцілі славе ўмельцаў, адораных талентам казаць тое, што прыемна чуць суразмоўцу. Яны не заўважаюць, аднак, што такая звычка прыносіць славу, але не карысьць.

Сапраўды, хлусьня — чортава загана. Слова робіць нас людзьмі, і толькі яно дае нам магчымасьць суіснаваць. Калі б мы ўсьведамлялі вагу слова і жах хлусьні, дык гарэлі б манюкі на агні пяршэй, чым будзьякія іншыя злачынцы. Мне здаецца, што дзяцей часта караюць за ўсякую дробную драбніцу, вельмі недарэчна; што іх караюць за правіны, якія ўчыненыя з-за нязнаньнянеразуменьня і якія ня цягнуць ніякіх наступстваў. Толькі з хлусьлівасьцю і ўпартасьцю, трошкі меней шкоднай, трэба змагацца пачынаючы зь дзяцінства, каб яны не зарадзіліся і не ўкараніліся. Гэтыя заганы ўзрастаюць разам зь людзьмі. Бо варта толькі пусьціць гаворку ў балота хлусьні, дык проста дзіва, як ёй цяжка і амаль немагчыма выкараскацца з гэтай твані. Вось і атрымліваецца, што ў палон і валадарства лжы трапляюць нават сумленныя. Ад аднаго майго знаёмага краўца я ніколі ня чуў праўдзівага слова, нават калі сказаць праўду выйшла б яму на карысьць.

Калі б у хлусьні, як у праўды, было адно аблічча, мы б ня мелі бяды, бо ведалі б, што праўда — гэта супрацьлеглае таму, што наплёў хлус. Але адваротны бок праўды можа мець сто тысячаў аблічча́ў, і ні канца, ні меры яму няма.

Пітагарыйцы лічаць добро пэўным і абмежаваным, а зло няпэўным і бясконцым. Тысячы шляхоў зводзяць ад мэты, адзіны вядзе да яе. Я зусім ня ўпэўнены, што нават дзеля прадухіленьня велізарнае пагрозы я мог бы пайсьці на шчырую і бессаромную хлусьню.

Нехта з айцоў царквы піша, што мы пачуваемся лепей у кампаніі знаёмага сабакі, чым чалавека, калі мова яго нам зусім не вядомая. «Ut externus alieno non sit hominis vice»[1]. І наколькі ж больш карысьці зь цішыні, чым з падманнай мовы.

Кароль Франсуа I ганарыўся тым, як вывеў на чыстую ваду пасла герцага Мілянскага — надта здатнага прамаўляць Франчэска Тавэрну. Мэсіра Тавэрну ягоны гаспадар паслаў да Яго Вялікасьці з прабачэньнямі за вось што. Каб даставаць верныя зьвесткі зь Італіі і, у прыватнасьці, з герцагства Мілянскага, адкуль нас нядаўна выцесьнілі, кароль вырашыў трымаць ля герцага прыхільнага сабе шляхціца, які ў сапраўднасьці быў паслом, але нібыта простым чалавекам. Гэты шляхціц удаваў, што знаходзіцца ў Міляне з уласнымі справамі. І добра рабіў, бо герцаг залежаў болей ад імпэратара, чым ад нас, а ў тыя часы і пагатоў, бо акурат хадзіў у сваты да пляменьніцы імпэратара, дачкі караля Даніі, што цяпер ёсьць герцагіняйудавой Бургундыі, і ня мог адкрыта падтрымаць зносіны і перамаўляцца з намі бяз шкоды для сябе. Да такога даручэньня прыдаўся шляхціц родам зь Міляну Мэрвэйль, каралеўскі стаўнік. Яго выправілі; ён вёз пад пахай пару тайных граматаў і пасольскіх настаўленьняў, а ў кішэні рэкамэндацыйныя лісты да герцага наконт ягоных асабістых справаў, а справы гэтыя, як я ўжо казаў, былі толькі туманом у вочы.

І ён правёў пры двары герцага такі працяглы час, што імпэратару выйшла пэўнае незадавальненьне, якое і спрычынілася, мы мяркуем, да далейшых падзеяў, а менавіта да таго, што, скарыстаўшы з падставы нейкага забойства, герцаг аднойчы яснай зорнай ночкай загадаў адсячы нашаму Мэрвэйлю галаву; суду спатрэбілася толькі два дні, каб узаконіць справу. Мэсір Франчэска загадзя падрыхтаваў доўгую падманную вэрсію падзеяў — бо кароль быў запатрабаваў тлумачэньняў, зьвярнуўшыся на гэты конт да ўсіх хрысьціянскіх валадароў і да самога герцага — і вось ужо выклаў яе каралю падчас ранішняга прыёму. А каб абгрунтаваць, сьцьвярджаў, што ягоны манарх, герцаг Мілянскі, заўсёды лічыў нашага пасланца простым мілянскім шляхціцам, сваім падданым, які перабываў у горадзе з уласнымі справамі і ніколі пра іншыя паўнамоцтвы нашага чалавека ня ведаў; прытым мэсір Франчэска адмаўляў нават, што герцагу было вядома пра знаходжаньне Мэрвэйля на службе французскага каралеўскага дому і асабістае знаёмства зь Яго Вялікасьцю; такім чынам, герцаг быццам ня меў падставы разглядаць вельмішаноўнага Мэрвэйля ў якасьці пасла; кароль, у сваю чаргу, закідаючы пасланьніка ўсялякімі пытаньнямі і пярэчаньнямі і прыступаючы з розных бакоў падзеі, нарэшце прыціснуў яму крылы, пацікавіўшыся, чаму ж Мэрвэйль быў пакараны сьмерцю ўначы і нібы ўпотайкі. На гэта небарака госьць, жадаючы ціха й сьвята вынайсьці зручную і прыстойную прычыну, адказаў, што, дзеля павагі да Яго Вялікасьці, герцагу было б надта няёмка, каб пакараньне адбылося ўдзень. Кожны можа здагадацца сам, што, даўшы маху ды яшчэ ў прысутнасьці караля Франсуа, чалавека з выдатным чуцьцём, мэсір Франчэска быў адразу выкрыты.

Папа Юлій II аднойчы выправіў пасла да ангельскага караля, каб падбухторыць апошняга супраць караля Франсуа; пасол быў выклаў, што яму даручана, а ангельскі кароль у сваім адказе спыніўся на цяжкасьці прыгатаваньняў, непазьбежных перад вайной з такім магутным можнаўладцам і прывёў некаторыя прыклады, на што пасол неяк недарэчна зазначыў, быццам ён меў такія ж сумневы й казаў пра гэта папу. Гэтая заява супярэчыла мэце пасольства, (мэта была — падштурхнуць да вайны любым чынам), а таму ўпершыню навяла ангельскага караля на думку, якая неўзабаве пацьвердзілася, што пасол у душы ідзе за Францыю. Пра гэта паведамілі папу, маёмасьць пасла сканфіскавалі, а сам ён ледзьве не разьвітаўся з жыцьцём.

Пераклад з францускай
Андрэя Дынько

[1] *«Такім чынам, чужынец для чалавека іншага племя — не чалавек». Пліній, «Натуральная гісторыя».*

*Адам Глёбус*

# Каралеўства Буды

**ТАЙЛЯНДЗКІЯ ПАДАРОЖНЫЯ СЬПІСЫ**

*Працяг. Пачатак ў №10*

## Чырвонае...

Іерогліф найлепш глядзіцца, калі яго напісалі густа-чырвонай фарбай на фактурнай паперы.

Маленькі квадрацік пячаткі ў кутку малюнка, зробленага тушшу, мусібыць чырвоны.

Ручнік каханкі, якім яна абгортваецца пасьля купаньня перад любоўнымі гульнямі, павінен мець пяшчотна-чырвонае адценьне.

Было б незразумела, калі б агеньчыкі стоп-сыгналаў мелі не рубінава-чырвоны, а смарагдава-зыркі колер.

Бясспрэчна, найлепшая зорка на навагодняй ёлцы мае ўрачыста-чырвонае шкло.

Найлепшы з усіх чырвоных колераў толькі той, які малюе сонца на адваротным боку твайго века.

Яшчэ някепска глядзіцца паска чырвонага колеру на дзяржаўным сьцягу.

Лямпачкі ў бары для эратычных танцаў мусяць быць адназначна-чырвоныя.

Квартал, у якім зьбіраюцца вольныя жанчыны, звычайна называюць «Кварталам чырвоных ліхтароў» або «Чырвоным кварталам» і не выпадкова, бо там сапраўды шмат чырвоных, ружовых і пурпуровых лямпачак, у сьвятле якіх жанчыны выглядаюць утрая прыгажэйшымі.

## Тое, што ўначы выглядае лепей, чым удзень...

Бары.
Жанчыны ў барах.
Жанчыны.

## Ружовае...

Прыемна зьдзіўляе нутро вялікай ракаўкі ружовае й гладзенькае, як успамін пра юнацтва.

Сьпіны вараных крэвэтак ледзьружовыя, але менавіта такое адценьне робіць іх мяса смачнейшым.

Ружовы — традыцыйны дзявочы колер.

Таму купальнік тайляндкі, калі яна маладая, смуглявая й мае роўны загар, мусібыць цёмна-ружовы з мэталёвым адлівам.

Вокладка тоўстага сшытку коміксаў, якія чытае тая ж маладзіца, звычайна супадае з афарбоўкаю купальніка.

Ляк на пазногцях рукі, якая трымае коміксы, ружовы, каб не парушаць ансамблю.

Кончык языка, якім тайляндка праводзіць па сваіх гасьцінных вуснах, натуральна, ласкава-ружовы.

Пяшчотна-ружовы колер мае ўлоньне.

Сьвятло ў начных барах якімі толькі пералівамі не зіхаціць: і амаль-чырвонымі, і амаль-пурпуровымі, але асноўны —сакавіта-ружова-эратычны.

## Непрыстойнае...

Шмат есьці ў каханкі вельмі непрыстойна, бо той час вызначаны на іншае.

## Вялікае...

Каровы на каралеўскіх палях ня толькі павінны быць вялікімі, чыстымі й дагледжанымі, яны такія й ёсьць — палявыя, доўгарогія, крутабокія. Не ўзьнікае сумненьняў, што менавіта ад вялікіх кароў найсмачнейшае, найчысьцейшае, найтлусьцейшае малако трапляе на стол да караля.

Тронная заля, натуральна, не маленькая. І можна ўявіць: як прыходзіць у яе кароль, як узыходзіць і сядае на трон. І адзінае зь відавочнага, што ў такі момант адрозьнівае караля ад Буды, дык толькі наяўнасьць акуляраў. Буда акуляры не насіў.

Уражвае веліччу статуя Буды, які ляжыць. Навокал сонца, сьпёка, задуха, мітусьня, шум адзінаццацімільённага Бангкоку, а ты, скінуўшы абутак, заходзіш у паўзмрок і прахалоду храма, спыняесься, бачыш неверагодна доўгага залатаскурага Буду, які адпачывае на пяцідзесяцімэтровым пастамэнце.



Буда ляжыць, падпёршы чарнавокую галаву рукой, і слухае перазвон мэталёвых манэтак. Паломнікі сыплюць баты ў чорныя чыгункі. Манахі тут жа, каля маціцовых падэшваў Буды, прадаюць дзесяць мэталёвых батаў за дваццаць папяровых. Наведнікі купляюць і сыплюць у чыгункі. Ахвярапрынашэньне. Буда спакойна, з таемнай асалодаю, слухае ціньканьне манэтак аб манэткі. Буда бясспрэчна вялікі. Буду абыходзіць музыка грошаў.

А вось большасьць людзей неабыякава ставіцца да матэрыяльных каштоўнасьцяў. І гэта робіцца відавочным у ювэлірнай краме. Асабліва ў вялікай краме, дзе пры ўваходзе ў садзе сумуюць трохколерныя папугаі з паўмэтровымі бліскучымі пёрамі ў шыкоўных хвастах. А ў невялічкіх стаўках пад папугаевымі клеткамі мільгаюць шырокія сьпіны чырвона-белых карпаў. Каля парогу вітаюць афіцыянткі вышнураваныя на ганку. Іх сукенкі маюць колеры вясёлкі ад рэдзенька-лімоннага да сакавіта-пурпуровага. Дзяўчаткі прапануюць разнастайныя напоі, ад фанты да фінскай гарэлкі зь лёдам. Задарма. Галоўнае каб наведнік прайшоў у гандлёвую залю, дзе ў зашклёных прылаўках зіхацяць каштоўныя мэталы й каміні, а ў празрыстых акварыюмах лунаюць акулы. Кошты ў сапфіравай краме неверагодна вялікія.

У вялікім Бангкоку шмат вялікага. Шмат велічных храмаў і палацаў, але крамы ўсё адно большыя, шырэйшыя, вышэйшыя. Людзей, якія апранаюцца й ядуць, болей за тых, хто моліцца. Толькі найвялікшы будынак у сталіцы Каралеўства Тайлянд не сабор і не крама, не банк і не палац... Дзевяностадвухпавярховы хмарачос — гатэль. Усе мы госьці ў каралеўстве Буды.

Не сакрэт: манэта ў дзесяць батаў большая за манэту ў адзін бат, а купюра ў тысячу ня можа быць маленькай паперкаю, яна —вялікая. Тое, што ў амэрыканцаў даляравыя банкноты незалежна ад вартасьці маюць адзін памер — памылка. І таму на новых стодаляравых паперках галава прэзыдэнта стала значна большая, чым на старых.

Рэклямныя шчыты й канструкцыі, што стаяць пры дарозе з аэрапорту ў Бангкок вельмі вялікія. Тайляндзкія рэклямадаўцы грошай не шкадуюць.

Увечары ў Бангкоку сонца ня проста вялікае, яно волатаўскае і боскі круг радуе, супакойвае й суцяшае душу.

Сланы вялікія. Індыйскі, чорны слон меншы за афрыканскага, але ўсё адно, калі зблізку глядзець, уражвае памерамі. Асабліва гэта робіцца відавочным, калі на рудаваты лоб сланіхі сядзе залацісты матылёк. У самім слове «слон» ёсьць веліч, але больш велічы чуецца ў ангельскім elephant.

Вялікай павінна быць любоў да бацькоў і дзяцей сваіх. Вялікім мусіць быць сабор, у які ніколі ня зойдзе ніводзін сьвятар.

*Далей будзе.*

## Здарэньні

### Атрымалі па заслугах

Вярхоўны Суд вынес пастанову наконт апратэставаньня пракуратурай краіны замалога тэрміну для трох злачынцаў. Раней у Магілёве адбыўся суд над трыма рэкецірамі-рэцыдывістамі, якія прыходзілі да дырэктараў камэрцыйных прадпрыемстваў і патрабавалі грошы за «ахову». Памер адкупнога складаў ад 50 да 100 даляраў ЗША штомесяц. Магілёўскі Ленінскі раённы суд прысудзіў злодзеяў да 5 і 3,5 гадоў пазбаўленьня волі. Але ў адказ на апэляцыю асуджаных Магілёўскі абласны суд зьнізіў тэрміны да 3 і 1,5 гадоў. Але гэтае рашэньне было абскаржанае пракуратурай краіны, што было падтрымана Вярхоўным Судом, і пачатковы прысуд застаўся ў дзеяньні.

### У рымскім стылі

У Маладэчне мінакі зьвярнулі ўвагу на чалавека, што ў пакаёвых пантофлях шпацыраваў па вуліцы, абкруціўшыся белай прасьцінай. Нехта падумаў, што здымаюць фільм пра старажытны Рым, нехта падумаў, што гэта крышнаіт, а нехта, што чалавек з вар'ятні ўцёк. Насамрэч парыўся чалавек у мясцовай лазьні, парыўся ды парыўся. А як сунуўся да шафкі, дзе рэчы ляжалі, то ўбачыў, што ўсё зьнікла. Пакралі. Вось і давялося весяліць мінакоў у адзежы старарымскага стылю. Добра, што здарылася гэта ўдзень. А то калі б ноччу йшоў, то маглі б прыняць за прывід.

### На корм камарам

У тым жа Маладэчне крадуць ня толькі ў лазьнях. Спусташаюць таксама прысядзібныя дзялкі ды дачныя гароды. Выкопваюць усё, што расьце, квітнее ці высьпявае. Каб абараніцца ад такой пошасьці, гаспадары некаторых дзялак выстаўляюць варту на ўзор радоўкі для выпасу кароваў. Бяруць мужыкі па калу ці ланцугу ды ходзяць ноччу вакол сваіх дзялак.

Так днямі напаткалі такія дзецюкі аднаго небараку, што рассаду выкопваў. Мала таго, што ў каршэль наклалі, то вырашылі яшчэ й прафіляктычнае мерапрыемства правесьці. Як Рабінзон Круза з варонамі, што спусташалі ягоны гарод, калі той, забіўшы варону, прывязаў яе на палцы пасярод поля, каб іншыя баяліся. То ўзялі мужыкі крадзяра, распранулі дагала ды прывязалі да дрэва. А самі пайшлі адпачываць. Калі вярнуліся ранкам да сваёй ахвяры, то той быў ледзь жывы: здубеў ад холаду, зьнямог ад нерухомага стаяньня ды распух ад укусаў камароў. Дадаўшы злодзею замест масажу яшчэ кухталёў, яго адпусьцілі, папярэдзіўшы, што наступны раз прывяжуць каля мурашніка ці пасадзяць у сажалку на зьядзеньне п'яўкам.

### Юр давёў

У адной зь вёсак Касьцюковіцкага раёну сабраліся на п'янку некалькі хлапцоў, што на выхадныя прыехалі з гораду дахаты. Калі бутэлькі з «чарнілам» былі спустошаныя, іх адолеў юр, і хлапцоў пацягнула да жанчын. А паколькі вёска — гэта не заводзкі інтэрнат, і маладых незамужніх кабетаў тут можна на пальцах пералічыць, то, ня доўга думаючы, п'яная кампанія рушыла да адной зь іх. А 2-ой гадзіне ночы жанчына прачнулася ад моцнага грукату ў дзьверы. Даведаўшыся, што да яе наведалася столькі маладых хлапцоў, яна была прыемна зьдзіўленая такой увагай, але ў хату пускаць адмовілася. Тады адзін з тых, каго найболей пёк агонь пажады, выціснуў шыбіну, адчыніў вакно й палез кахацца. Аднак замест пажаданых абдымак атрымаў два ўдары рыдлёўкай па галаве. Гэта адразу ацьверазіла ягоных прыяцеляў, якія захапілі скрываўленага кампана й пабеглі выклікаць «хуткую». У вясковага Казановы аказаўся пералом патылічнай косткі ды праламаны чэрап. Да таго ж ён страціў шмат крыві. У мясцовай лякарні ён неўзабаве й сканаў, не прыходзячы ў прытомнасьць.

### Пашкадавалі

Даўна вядома, што адносіны людзей да п'яных у нас вельмі дзіўныя. Як тыя якое паскудзтва робяць, то людцы абураюцца, а як паспрабуе хто п'яніцу прыструніць, то наадварот шкадуюць ды абараняюць. Днямі ў Менску сядзелі сабе бабулькі на лаўцы пры пад'езьдзе ды пляткарылі. Раптам пачулі яны цурчэньне як бы вады, што лілася зьверху. «Можа, хто кветкі палівае?» —падумалі яны. Але, узьняўшы галовы, замест шлангу ўбачылі мужчынскі чэлес. Гэта сусед з трэцяга паверху спраўляў малую патрэбу проста на клюмбы з кветкамі. Каб засохлі хутчэй, відаць. Людзям у двары гэта не спадабалася, і яны пачалі сварыцца на хулігана, маўляў, той зусім сорам страціў, і зараз яны выклічуць міліцыю. Але, як паведамляе «Вечерний Минск», замест міліцыі на бальконе зьявілася жонка суседа. Пачулася страшэнная лаянка ды гукі кухталёў. Пасьля аднаго з трапных удараў мужык зьнік з поля зроку. Але замест удзячнасьці дваравая грамадзкасьць пачала сварыцца на жонку. Маўляў, заняла прыбіральню, давяла чалавека да крайніх мераў. Дык няма чаго й рукі распускаць!

### Закон джунгляў

Нягледзячы на натоўпы ахоўнікаў на вуліцах беларускіх гарадоў, бязгасных сабак у нас нешта ня менее. Наадварот, людзі адчуваюць сябе як у джунглях. Таму й зьяўляюцца ў газэтах парады, як абараніцца ад «лепшага сябра чалавека». Прапануюць і балёнчыкі з газам, і электрашокеры, і звычайны кол з плоту. Але тое альбо вялікіх грошай каштуе, альбо ня надта эфэктыўнае, альбо вымагае пэўнай падрыхтоўкі. Таму быў прапанаваны «альтэрнатыўны» варыянт. У вялейскай раённай газэце з парадамі да насельніцтва адносна самаабароны ад сабак выступіў мясцовы лекар-псыхіятар. Ён параіў у выпадку нападу сабакі стаць на карачкі тварам да чатырохногага непрыяцеля, ашчэрыць рот ды пачаць моцна брахаць. Псыхіятар лічыць, што тады сабака вырашыць, што чалавек ашалеў ды пакіне яго ў спакоі.

# Страчаная спадчына

Конкурс



*Гэта — другі аб'ект, які вы мусіце назваць і ўказаць дату ягонага зьнішчэньня.*

*Нагадаем, што помнікі, выявы якіх мы зьмяшчаем, існавалі ў пару першае «Нашае Нівы», гэта значыць, у першай чвэрці XX ст. і былі зьнішчаныя савецкімі ўладамі. Мы ня ймкнуліся ўскладніць задачу, зважаючы на тое, што ўяўленьне пра гэтыя шэдэўры можна скласьці толькі з спэцыяльнай літаратуры, а таму, па-першае, рэпрэзэнтуем менавіта выбітныя здабыткі, а па-другое, толькі тыя, выявы якіх можна сустрэць у сёньняшніх кнігах.*

*Знаёмства з гэтымі помнікамі, зь іх лёсам, у пэўнай ступені адказвае нам на беларускія пытаньні, якія часам ставяцца ў нас з адчайнаю скрухаю: чаму мы такія, а ня іншыя? чаму не стае волі? чаму не баронім свайго? чаму нішто не спыняе сёньняшні вандалізм наверсе і ўнізе? Магчыма, бліжэйшае знаёмства з нашай панішчанай спадчынай дапаможа спасьцігнуць пачуцьці й памкненьні тых, хто напрадвесьні беларускага адраджэньня стварыў легенду беларускае прэсы, літаратуры й гісторыі —»Нашу Ніву»...*

*Адказы можна дасылаць адным лістом пасьля пятае загадкі. Чакаем таксама і на Вашыя допісы. Мо' каму з Вас ёсьць што нам распавесьці, альбо пазнаёміць нас са здабыткамі з сваіх асабістых, сямейных архіваў: старыя здымкі, малюнкі, успаміны. Можа нас з Вамі чакаюць адкрыцьці. Нейкі са здымкаў, які выпадкова ацалеў у старым доме, можа замкнуць ланцуг досьледаў і яшчэ адзін помнік будзе належаць нацыі, хоць бы ягоны дух...*

*Помнікаў культуры, зьнішчаных за савецкім часам, ці ня болей, чым іх засталося на сёньня, многае са спадчыны не было нават зафіксавана: каплічкі, сьціплыя вясковыя бажніцы, фальваркі, руіны старажытных замкаў, парослыя мохам камяні — напаміны пра нечае жыцьцё і веру, старыя рыпучыя ветракі альбо папросту дамы, дзе гасьцявалі на Дзяды душы...*

Сяргей Харэўскі

### Пакаталіся

Ноччу ў мясцовую ДАІ гораду Сянно на Віцебшчыне паступіла паведамленьне пра дарожна-транспартнае здарэньне. Супрацоўнікі ДАІ хуценька выехалі на месца здарэньня. Паводле інфармацыі БЕЛТА, там яны знайшлі аўтамабіль «Жыгулі», што на хуткасьці ўрэзаўся ў жалезабэтонную агароджу. У кабіне знайшлі трох параненых маладых хлопцаў — ад сямнаццаці да дваццаці гадоў. Той, што быў за рулём, загінуў. Як высьветлілася, ён быў васьміклясьнікам зь Віцебску.

### Ты мяне спарадзіў, а я цябе заб'ю

Яшчэ адзін васьміклясьнік сам стаўся прычынаю сьмерці. І не абыкаго, а роднага бацькі. Здарылася гэта ў Крычаве. Вучань мясцовай школы, які раней прыцягваўся судом да адказнасьці за крадзеж, вярнуўся дахаты на добрым падпітку. Яму было мала, і ён прыгадаў пра схаваную на пахмелку пляшку «чарніла». Але пітва ў запаветным месцы не аказалася. Затое дома аказаўся п'яны бацька, які апярэдзіў сына й выжлукціў ягонае віно. Сын падскочыў да бацькі ды пачаў лаяцца, патрабуючы кампэнсацыі. На што стары заўважыў, што, па-першае, ён таго нарадзіў ды выхаваў, а таму сын мог бы й сам пачаставаць бацьку, а па-другое, сказаў, што сын яшчэ задужа малады, каб жлукціць сьпіртное. І зноў-такі на ягоныя, бацькавы грошы. Маўляў, лепей бы вучыўся добра, а ня краў. Такое выхаваньне не спадабалася маладому боўдзілу, і ён кінуўся да бацькі біцца. Стары схапіў адной рукой нож, якім рэзаў хлеб на закуску, а другой зэдлік ды запусьціў ім у сына. І патрапіў, відаць, добра, бо той выхапіў з-пад лаўкі сякеру ды ўсадзіў яе тату ў галаву. Пасьля, выцягнуўшы з рук бацькі нож, некалькі разоў усадзіў кухонную прыладу бацьку ў грудзі. Пасьля забраў бацькавы ключы ад машыны ды паехаў куды далей, каб зрабіць сабе алібі. Але яму не паверылі.

### Ня доўга гуляў

У Баранавічах кіроўца таксі мясцовага таксапарку выехаў на лінію. А праз некаторы час пехам прыйшоў у міліцыю ды паведаміў, што на яго быў зроблены разбойны напад. Два злачынцы, пагражаючы кіроўцу нажом, высадзілі яго з машыны, а самі зьехалі ў невядомым кірунку. Міліцыя распачала стандартную для такіх выпадкаў апэрацыю перахопу. І праз нейкія паўтары гадзіны таксі з угоншчыкамі было заўважанае ў раёне вёскі Богушы. Падзеі разьвіваліся як у кепскім баевіку. Міліцыянцкая машына перасьледавала злачынцаў. Злодзеям было загадана спыніцца. Тыя не падпарадкаваліся. Тады былі зробленыя папераджальныя стрэлы. Не падзейнічала. Трэці стрэл з «Калаша» патрапіў у плячо таго ўгоншчыка, што сядзеў за рулём. Ён страціў кіраваньне, і машына ўляпілася ў дарожную агарожу. Цікава, што адзін з злачынцаў таго ж дня толькі што выйшаў зь месцаў зьняволеньня.

### Абакралі трупярню

Невядомыя абрабавалі трупярню гомельскай абласной дзіцячай лякарні. Яны скралі 40 аднаразовых шпрыцоў, скальпелі, хірургічныя кручкі, нажніцы, зажымы ды іншае. Небясьпека палягае ў тым, што скрадзеныя інструмэнты былі інфіцыраваныя.

ПРАВААХОВА

# Калі жыць застаецца дзьве сэкунды

Сусьветная практыка паказвае, што ў 95 выпадках з 100 паліцыянты, якія гінуць ад кулі злачынцы, так і не пасьпяваюць выцягнуць сваю зброю, хоць многія зь іх былі выдатнымі стралкамі і з 25 мэтраў траплялі ў нерухомую мішэнь.

«У чалавека, на якога накіраваная зброя злачынцы, часьцяком ёсьць усяго 1-2 сэкунды часу, каб выратаваць сваё жыцьцё, —кажа выкладчык віленскай Акадэміі паліцыі маёр Паташоў. — За гэтыя імгненьні ты павінен ацаніць сытуацыю, выцягнуць зброю, зарадзіць і зрабіць трапны стрэл. Гэта магчыма толькі пасьля адмысловых трэніровак».

Пасьля Другой сусьветнай вайны была створана міжнародная канфэдэрацыя практычнай стральбы, якая й пачала распрацоўваць нарматывы абыходжаньня з зброяй у экстрэмальных умовах. У часе трэнінгу людзей вучаць, як паводзіць сябе ў той ці іншай сытуацыі. Амаль ва ўсіх краінах Захаду паліцыя практыкуецца не ў стральбе ў нерухомыя мішэні, а мадэлюе магчымыя канфліктныя сытуацыі — напад у кавярні, замах у аўтамабілі і г.д.

Між тым у Літве да мінулага году паліцыянтаў вучылі страляць паводле савецкага мэтаду: устаеш бокам за 25 м ад мішэні, бярэш пісталет адной рукой і страляеш.

«Гэта толькі спартовая стральба, якая не дае практычнай карысьці», — мяркуе трохразовы чэмпіён Літвы ў баявой стральбе, камісар Віленскага аддзелу апэратыўнай службы памежнай паліцыі Ё.Рымкявічус.

Дарэчы, практыка-сытуацыйная стральба прызначана ня толькі для работнікаў паліцыі, але й для ўсіх, хто носіць зброю для самаабароны. Цяпер, калі ў Літве зброі больш, чым розуму, важна, каб прадпрымальнік ці банкір, які мае пісталет, умеў ім карыстацца.

У Літве практыка-сытуацыйную стральбу пакуль прапагандуюць толькі энтузіясты, якія зьбіраюцца ў паліцэйскім спартовым клюбе «Лідэрыс». Там яны вучацца як мага хутчэй выхапіць зброю, зарадзіць яе, выпрацаваць паводзіны для той ці іншай сытуацыі. Клюб «Лідэрыс» разьмешчаны побач з крамай збройнага фонду, які ахоўвае ўзброены паліцыянт. Адзін зь сяброў клюбу вырашыў пераканацца, ці сапраўды карысныя трэнінгі ў практыка-сытуацыйнай стральбе. І дамовіўся з паліцыянтам, што згуляе ўзброены напад. Мэта экспэрымэнту — весьветліць, хто хутчэй выхапіць зброю. Вынік экспэрымэнту: пакуль паліцыянт даставаў пісталет, «налётчык» пасьпеў зрабіць гэта тройчы...

*Respublika (Вільня)*

© НАША НІВА Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая Наклад 5000 Нумар падпісаны ў друк 9.6.1996 Надрукавана ў ЗАТ "Lietuvos Rytas" (Вільня, праспэкт Гедыміна, 12а)